# АД РЭДАКЦЫІ

„ЧАС"

Пад гэткім назовам распачынае сваё жыцьцё ангельска - беларуская газэта „ЧАС". Беларускае грамадзтва ўжо ад даўжэйшага часу чакае на выхад друкаванага слова паангельску, асабліва тая ягоная частка, якая прабывае ў англамоўных краінах заходняга сьвету, як: ЗША, Канадзе, Англіі, Аўстраліі, ды іншых. Друкаваньне беларускай газэты паангельску ня ёсьць толькі справай прэстыжу нашага народу, наадварот, яшчэ ў значна большай ступені, ёсьць пытаньнем сацыяльна-грамадзкім ды пытаньнем палітычнай неабходнасьці. Сёньня, калі працэс вызваленьня калёніяльных народаў даходзіць да поўнага закончэньня, калі былыя калёніі сталіся сувэрэннымі дзяржавамі, то Беларусь, ня гледзячы на ейны статут сувэрэннай дзяржавы ў Арганізацыі Злучаных Народаў, у запраўднасьці застаецца й далей калёніяй камуністычнай Масквы.

Жывучы ў свабодных і дэмакратычных краінах заходняга сьвету, нашым маральным абавязкам ёсьць выкарыстаць свае вялікія патэнцыяльныя сілы на чужыне ў кірунку больш эфэктыўнай барацьбы за вызваленьне свайго народу з пад „апекі" расейска-бальшавіцкага імпэрыялізму.

Заданьнем двухмоўнай газэты „ЧАС", зразумела, у першую чаргу будзе інфармаваць англамоўны сьвет з беларускай проблематыкай, а так сама інфармаваць беларускае грамадзтва аб сацыяльна-грамадзкіх і палітычных праблемах ягонага жыцьця. Новая беларуска-ангельская газэта ёсьць значным фактарам прагрэсу й нашай грамадзкай дасьпеласьці ды ўзросту палітычнай вызваленчай ідэі.

Газэта „ЧАС", як усё нова-народжанае, ёсьць арганізмам маладым і, бязумоўна, вымагае зразуменьня й шырэйшай грамадзкай дапамогі.

Рэдакцыйная Калегія

# ГІСТОРЫЯ БАЗА

Гісторыя Беларуска - Амэрыканскага Задзіночаньня гэта гісторыя часткі беларускай эміграцыі, якая ў выніку другое сусьветнай вайны апынулася на тэрыторыі ЗША.

Гісторыя Беларуска - Амэрыканскага Задзіночаньня ёсьць адначасна й часткай агульна-беларускай гісторыі, бяз якое, зразумела, ня можа быць поўнай гісторыі нашага народу. Гэтае самае трэба сказаць і аб гісторыі ЗША. Злучаныя Штаты Амэрыкі ёсьць краінай эмігрантаў розных нацыянальнасьцяў, а таму й беларусы, як асобная этнічная група ёсьць часткай агульнай гісторыі ЗША.

Выданьне друкам юбілейнай кнігі за 25-ці годні пэрыяд ад заснаваньня БАЗА дыскутавалася многа разоў на паседжаньнях Рады Дырэктароў. Нарэшце 15-ы Кангрэс Беларуска Амэрыканскага Задзіночаньня ў 1973-м годзе прыняў аднагалосна пастанову што трэба безадкладна прыступіць да апрацаваньня й выданьня гісторыі БАЗА за першае чверцьстагодзьдзе ды закончыць да наступнага Кангрэсу БАЗА. Была выбраная спэцыяльная рэдакцыйная Калегія, якую ачоліў Інж. Р.В. На вялікі жаль, з розных аб'ектыўных а пераважна суб'ектыўных меркаваньняў, не дайшло да рэалізацыі праекту. А, шкада! Вялікая праца праароблена нашым грамадзтвам ад імя Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША без карысьці для будучых пакаленьняў, без карысьці для нашай гісторыі можа кануць ў вечнасьць нябыцьця.

Каб так не сталася, рэдакцыя нашай газэты „Час" лічыць сваім маральным абавязкам, зрабіць усё ад яе залежнае каб гісторыя БАЗА забачыла сьвет.

Рэдакцыйная Калегія

# 25-годні Юбілей БАЗА



Паэтэса Натальля Арсеньева – аўтар высокамастацкага верша прысьвечанага 25–м Угодкам ад заснаваньня Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў З.Ш.А.

## НА 25-Я ЎГОДКІ БАЗА

*Вось, БАЗА, ўжо і твой цьверцьвечны юбілей!*
*Ляціць, імкне бо час із хутчынёй касьмічнай,*
*і ў лёце,*
*як лісьця увосені,*
*балей,*
*штогод балей, тых, гэтых не далічыць...*
*Так, толькі іх ужо, пад камень, пад крыжы,*
*тваіх сыноў, дачок лягло ў зямлі нянаскай?*
*Праводзіш ты усіх да вечнае мяжы*
*рупліва, як калісь зьнімала зь піраў гразкіх,*
*дапамагала ім, зьбянтэжаным, узьняць*
*зноў зь верай у жыцьцё пахілыя галовы,*
*і суцяшала іх,*
*дарма, што мітусьня*
*вакол чужая,*
*цёплым, родным словам.*
*Мы пад тваё крыльлё гарнуліся тады*
*даверліва,*
*была апекай ты й пацехай.*
*Ты нашым голасам была наўскрозь гады,*
*аж адгукайся сьвет на гэты голас рэхам.*
*Не забывала ты і нашых птушанят:*
*вучыла урастаць у роднае карэньне.*
*Была ты намі, мы - табою безьліч сьвят*
*і будняў*
*і ў тузе, і ў працы, і ў гарэньні!*
*Жыві-ж!*
*Ужо ня ты, -*
*Мы змагары твае!*
*Пільнуй ужо ня нас, а ўнукаў ад спакусы.*
*Хай справы ці адзін із праўды не здае -*
*Ты, БАЗА, тут для нас*
*часьцінкай Беларусі!*

# Перманэнтны Крызыс Сельскай Гаспадаркі ў БССР

Вельмі нізкія ураджаі сельскагаспадарчых культураў савецкая прэса, пераважна, тлумачыць неспадзяванымі засухамі, халоднымі паўночнымі й паўночна-ўсходнімі ветрамі або нізкімі дозамі мінеральных угнаеньняў. „Весьці", часапіс Акадэміі Навук БССР, Сэрыя сельскагаспадарчых навук у артыкуле „Да пытаньня аб павышэньні эфэктыўнасьці да выкарыстаньня меліяраваных зямель" А.С. Крачкоўскі кажа: „Аднак рост прадуктыўнасьці меліяраваных зямель неадпаведае росту балансавай вартасьці меліяраваных сыстэм. За параўноўваемыя перыяды балансавая вартасьць меліяраваных збудаваньняў на адзін га. меліяраваных земляў узрасла ў сярэднім на 56%, а прадукцыйнасьць меліяраваных зямель у кармавых адзінках усяго на 28% або ў два разы меньш. Галоўнай прычынай ўсё яшчэ нізкай эфэктыўнасьці выкарыстаньня меліяраваных зямель зьяўляюцца недастатковыя дозы ўносімых на гэтыя угодзьдзі мінеральных угнаеньняў."

З вышэйшага досьледу мы бачым, што агульная вартасьць зьмеліяраваных земляў у спалучэньні з пэўнай дозай мінепальных угнаеньняў на адзінку плошчы аднога га. замест спадзяванага прыбытку прынесла вельмі вялікія страты.

Іншымі вельмі важнымі, а на лёгкіх пясчаных і супясчаных грунтах, неабходнымі элемэнтамі меліорацыі зьяўляюцца натуральныя угнаеньні. Беларускія глебы пераважна належаць да катэгорыі пяшчаных, супяшчаных, і сугліністых, якія ў першую чаргу патрабуюць арганічных, і толькі пазьней, мінеральных угнаеньняў. Метэреолёгічныя й клімаголёгічныя досьледы сьцьвердзілі, што ў БССР сярэдняя тэмпэратура году паніжаецца, а ў сувязі з гэтым і даўжыня вегэтацыйнага рэрыяду скарочваецца, ад двух аж да трох тыдняў. Пасеўная кампанія зпозьніваецца, капаньне бульбы не заўсёды удаецца закончыць да замаразкаў.

Беларусь знаходзіцца ў зоне Атлянтычнага Акіяну, адкуль паўночна заходнія вятры прыносяць многа вільгаці, цяпла, адлегу й дождж. Вышыня атмосфэрычных ападаў за год вагаецца ад 500 да 700 мілім. Засухі ў Беларусі да Савецкай акупацыі былі вельмі рэдкім зьявішчам, а калі й былі, то мелі толькі лёкальны характар. Беларусь заўсёды была экспортэрам збожжа ў іншыя краіны.

Варта зацёміць, што зьнішчэньне аграмадных абшараў лясных дрэвастанаў у Беларусі нэгатыўна адбілася на водным рэжыме, парушана раўнавага рэгулярных лёкальных вятроў; заўважваюцца значныя кліматычныя й мікракліматычныя адхіленьні.

Аднак цэнтральным пунктам усіх няўдачаў савецкай аграрнай палітыкі ў Беларусі, а так сама ў іншых рэспубліках Савецкага Саюзу, гэта бязумоўна, колектыўна-нявольніцкія сыстэма гаспадаркі. Вельмі нізкую рэнтабільнасьць савецкай калхознай і саўхознай гаспадаркі можна выясьніць толькі пасыўным, ціхім байкотам селяніна-калхозьніка да ўсей социялістычна-колектыўнай сыстэмы наагул.

На закончэньне варта прывесьці заключальныя словы аднаго амэрыканскага фармера, зь сярэдняга заходу; яму як турысту, была паказана савецкая фарма-калхоз вялічынёю, прыблізна, як і яго ўласная фарма ў ЗША.

Пасьля дакладнага агляду калхозу, амэрыканец сказаў: „Тагды, як на вашай фарме працуе 1100 чалавек, на маёй усяго 11." Гэтымі некулькімі славамі амэрыканскі фармер даў поўную ацэну нярэальнай калектыўна-сацыялістычнай сыстэмы гаспадаркі.

Інж. М. Г.

# ЮБІЛЕЙНАЯ УРАЧЫСТАСЬЦЬ У КЛІЎЛЕНДЗЕ

## Юбілей Мітрапаліта Андрэя

25-га чырвеня г.г. споўнілася 25 гадоў службы ля Св. Прыстолу Уладыкі Мітрапаліта Андрэя, а 3-га ліпеня сёлета споўнілася 75 гадоў Ягонага жыцьця.

Нарадзіўся Уладыка Андрэй у Стаўпеччыне. Навуку распачаў з дапамогаю г.з. „дырэктара", якога бацькі дзяцей наймалі ды па чарзе кармілі. На трэйцім годзе навучаньня ўжо была адчынена 4-х аддзяловая школа, па заканчэньні якое А. Крыт паступіў у Міністэрскую школу а потым у новаадчыненую гімназію ў Новым Сьвержне, гдзе скончыў пяць клясаў.

Па заканчэньні гімназіі ў Нясьвіжы ў 1924-м годзе меўся прадоўжваць свае студыі ў Празе Чэскай, але з пэўных палітычных меркаваньняў польскі урад ня выдаў Яму візы на выязд да Чэхаславакіі.

Пазьней, аднак, Сп. А. Крыту удалося выехаць да Латвіі, а адтуль да Берліна, гдзе наш Дастойны Юбіляр распачаў свае студыі на Берлінскай Палітэхніцы.

Але Ўсемагутны паклікаў нашага Дарагога Юбіляра да іншай працы, да працы духоўвага выпрабаваньня ды духова-рэлігійнага узгадаваньня пакрыўджанага беларускага народу. У Англіі 25-га чырвеня 1950 г. Сп. Александар Крыт быў рукапаложаны ў сан сьвяшчэніка Б.А.П. Царквы.

У лютым 1961-га г. а. Александар ўжо ў ЗША, Настаяцель Прыходу Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлендзе, Огаё. Ў 1968-м годзе а. Прат. Александар быў пастаўлены на Япіскапа БАПЦ.

Раптоўная сьмерць Арх. Васіля ў 1970-м годзе, накладае на Уладыку Андрэя абавязкі кіраўніцтва Эпархіяй ў ЗША, а па сьмерці Архіяпіскапа Сяргея, Яму суджана было пераняць кіраўніцтва ўсяе Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы на Чужыне.

Ініцыятыву да зарганізаваньня 25-ці Годняга Юбілею Уладыкі Мітрапаліта Андрэя ўзяла на сябе Парахвіяльная Рада. Праграма Юбілею складалася з 2-х частак: Архірэйскай Саборнай Службы ў Саборы Жыровіцкай Божай Маці й супольны абед, які прыгатавалі жанчыныпарафіянкі пад кіраўніцтвам сяброўкі Рады Клаўдзіі Каляды.

Ў суботу 12-га ліпеня ў Кліўленд прыехалі: Дастойны Арх. Мікалай, а. Александар Яноўскі, а. Максім Таўпека, і некаторыя госьці з блізкіх і далейшых беларускіх асяродкаў Увечар 12-га ліпеня была адслужана Вячэрня, а ў нядзелю рана, а гадзіне 9:30 пры ўваходзе ў Сабор Уладыку Мітрапаліта вітаў Стараста Адам Пракаповіч з хлебам і сольлю. Архірэйжкую Саборную Богаслужбу ачоліў Уладыка Арх. Мікалай у саслужэньні ўспомненых сьвятароў і пратадзіякана Міхася Страпка. Цудоўна сьпеваў хор пад кіраўніцтвам вядомага Рэгента Сп. Кісльга. Харысты на гэтую урачыстасьць сабраліся ў поўным складзе, а таму запраўды, ў Саборы адчуваўся глыбокі малітоўны настрой. Пасьля Св. Літургіі для Юбіляра быў адслужаны Малебен Удзячнасьці з многалецьцем.

Пасьля малітоўнай часткі ў царкоўнай салі ў гонар Юбіляра адбыўся супольны абед. Гаспадаром на абедзе быў Уладыка Арх. Мікалай. У перапоўненай да краёў салі ня было мейсца для ўсех, якія хацелі павітаць свайго Уладыку з 25-мі Угодкамі Ягонай душпастырскай працы.



*Уладыка Мітрапаліт прамаўляе за галоўным сталом.*

Першым вітаў Уладыку Сп. Інж. К. Калоша, Старшыня Парахвіяльнай Рады, які адначасна вітаў духавенства, гасьцей, ды выказаў падзяку жанчынам-парахвіянкам, якія прыгатавалі шчодры абед.

Авацыйна прысутныя віталі парахвіянаў украінскае царквы Спадарства Паноманэнкаў, якія паднесьлі Уладыку Андрэю букет жывых кветак з далучанымі да букету іконамі й сьвечкамі.

Падчас застольнай бяседы прысутныя праслухалі прыгожую прамову Уладыкі Мікалая, які нарысаваў поўны абраз самаадданай ды цяжкое працы, якую прышлося пераадольваць Нашаму Юбіляру пры арганізацыі рэлігійнага жыцьця працуючы яшчэ ў Англіі. З асаблівай увагаю прысутнвя выслухалі й палкія прывітальныя прамовы ўкраінскіх сьвятароў: Мітрафорнага Прат. Сьцяпана Ганковіча й Прат. Хведара Коваленко, якія падзякавалі за шчырае супрацоўніцтва Уладыкі Андрэя з Украінскімі Япіскапамі й сьвятарамі й выказалі падзяку за парады ў справах рэлігійных.

Як рэлігійнага й грамадзкага працаўніка віталі Уладыку: а. Александар Яноўскі, Старшыня Парахвіяльнае Рады Украінскае Праваслаўнае Царквы Сп. М. Ягодзік, Др. Я. Сажыц, Сп. Інж. Міхахей, Сп. Кіслы, Сп. В. Семенчук, Сп. Панеманенка, і Сп. Кошкода.

Прачытаны былі прывітаньні ад імя ўсіх парахвіяў і Парахвіяльных Радаў БАПЦ: Амэрыкі, Канады, Англіі, Бэльгіі, Аўстраліі, ад Архімандрыда Язэпа, Прат. Міхася Мігая.

Былі прачытаны тэлеграмы й прывітаньні ад Старшыні Рады БНР Др-а Жука-Грышкевіча, Галоўнай Управы БАЗА Сп. Шукелайтса, Др. Я. Запрудніка, ад Беларускай Маладзежнай Арганізацыі - Азарка, ад Рады БАПЦ ў Англіі а. Абабурко й Сп. Калбаса, ад Згуртаваньня Беларусаў у Вялікабрытаніі, Аддзел Брадфорд, Каўбаса, Віценчык, ад Сп. Інж. М. Гарошкі, ад Сп. Бяроўскага, Сп. Гралеўскага, Сп-ні Чэрры, Сп-ва Войтэнкаў, Кахаidоўскіх, Косарава, ад Протапрасьвіцера а. Др. Аўгеня Смаршчка.

Апошнім гаварыў Уладыка Мітрапаліт. Глыбока Ўзварушаны выступленьнямі папярэдніх прамоўцаў сказаў: „мне здаецца, што ўсё сказанае было аб кімсь іншым, а не аба мне."

„Я-ж гатоў усе свае сілы і далей пасьвяціць працы для БАПЦаркві й галоўным маім жаданьнем ёсьць дачакацца хіратоніі яшчэ аднаго Япіскапа для БАПЦаркві. Я выконваю і буду выконваць не сваю волю, а волю Божую, бо ўважаю, што служыць Богу й свайму народу прадказана Ўсемагутным. Я шчыра дзякую ўсім тым, што спрычыніліся за зарганізаваньня гэтае урачыстасьці, усім што прыйшлі на мой юбілей, усім ахвярадаўцам і спачувальнікам."

25-ці годняя духова-рэлігійная праца Уладыкі Ўндрэя дала добры плён і зьяўляецца прыкладам для іншых, як трэба працаваць і перамагаць перашкоды, шанаваць і працаваць для сваёй нацыянальнай Царквы, любіць сваю Аўтакефальную Праваслаўную Царкву як крыніцу Праўды й Справедлівасьці.

Верны сябра.

# Заклік ад Каннсысторыі БАПЦ

### ДАРАГІЯ БРАТЫ Й СЕСТРЫ

З ласкі Госпада Бога й Спаса нашага Ісуса Хрыста, ды пры дапамозе вернікаў і прыхільнікаў Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы, беларуская эміграцыя зрабіла значныя асягненьні ў арганізацыі свае роднае незалежнае Царквы на чужыне.

Калі першыя сьціплыя арганізацыйныя мерапрыемствы былі запачаткаваныя яшчэ ў Нямеччыне, то ўжо пасьля расьсяленьня нашых суродзічаў па ўсіх краінах вольнага сьвету, новая беларуская эміграцыя здолела заснаваць поўную арганізацыйную структуру БАПЦаркві як: Мітраполію, Царкоўную й Епархіяльную Рады, Кансысторыю, дзесяткі парафіяў, навязаць малітоўную лучнасьць з іншымі праваслаўнымі юрысдыкцыямі, устанаўляючы такім чынам працяг працы нашае гістарычнае незалежнае Навагрaдзкае Мітраполіі.

Уся праца як: арганізаваньне парафіяў, будова й набыцьцё царкоўных будынкаў, адміністрацыйная, выдавецкая, культурна-асьветная, і рэпрэзэнтацыйная акцыя праводзіліся й праводзяцца з дапамогаю беларускага грамадзтва, ахвярнасьцю адзінак, а ў тым ліку й беларускага сьвятарства, якое ў бальшыні выпадкаў выконвае душпастырскія абавязкі бяз ніякае ўзнагароды, а на існаваньне змушаны працаваць на фабрыках, або ў іншых установах.

Усё гэта сьветчыць, што ўсе тыя, хто спрычыніўся для разбудовы беларускае нацыянальнае Царквы, сьведамыя таго, што Царква - гэта жывая частка нашага арганізму.

Сяньня, падсумоўваючы нашыя асягненьні, мы ўжо маем, апрача іншых здабыткаў, і паважную матарыяльную ўласнасьць БАПЦаркві.

Мы мусім дзякаваць Богу за ўсё, што ўжо асягнулі, але нам неабходна йсьці з поступам часу, а таму мусім імкнуцца да развою беларускага рэлігійна-нацыянальнага жыцьця ў тых парафіях, якія ўжо належаць да нашае юрысдыкцыі, а таксама старацца, каб кажны беларус належаў да свае БАПЦаркві.

Для кажнага з нас ведама, што для праводжаньня актыўнае дзейнасьці, апрача добрае волі й ахвоты, неабходна мець і матарыяльныя сродкі. На вялікі жаль Кансысторыя БАПЦаркві іх ня мае. А таму зварачаемся да ўсяго беларускага грамадзтва з гарачаю просьбаю, каб зразумелі патрэбу й прышлі з дапамогай.

Ахвяры просім прысылаць на адрас Кансысторыі:
Byelorussian Autocephalic Orthodox Church CONSISTORY
9 River Road
Highland Park, N.J. 08904

Кансысторыя БАПЦаркві

# ПАРАХВІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА

## ПРЫХОДУ СВ. ТРОІЦЫ Ў ДОРОТЫ

29-га чырвеня г.г. Царква Св. Троіцы ў Дороты спраўляла сваё Парахвіяльнае Сьвята.

Нашая Парафія была заснавана ў 1973-м годзе. Вялікае высьвячэньне адбылося 9-га верасьня 1973-га году Яго Высокапрэасьвяшчэньнейшым Мітрапалітам Андрэем. Сёлета, к нашаму вялікаму задаволеньню, мы атпраўляем ужо трэцюю Архірэйскую Божую Службу ў нашым Прыходзе. Ужо ў суботу 28-га чырвеня да Дороты прыехаў Архіяпіскап Мікалай. Раніцою ў нядзелю 29-га чырвеня пачалі прыезжаць машыны з Дороты й навакольных хутароў, Ню Ерка й Брукліна. А гадзіне 9:30 раніцы спэцыяльным аўтабусам прыехалі вернікі з Гайлэнд Парку, Н. Дж.

Перад 10-й гадзінай раніцы сустрэў Уладыку Мікалая з хлебам і сольлю Староста Прыходу Фёдар Міраноўскі перад уваходам да царквы, а ў Царкве сустрэў Уладыку Настаяцель Прыходу Прот. Карп Стар. Пасьля аблачэньня Уладыкі Мікалая быў выканаy акт пасьвяшчэньня Сп. Сьцяпана Турбілы ў ІПОДЗІЯКАНА, а Сп. Пётра Сарока быў уведзены да выкананьня абавязкаў Псаломшчыка Прыходу Св. Троіцы ў Дороты. Апрача гэтага Псаломшчык Пётра Сарока за ахвярную працу для свайго Прыходу атрымаў ад Мітрапаліта Андрэя Нагародную Грамату. Падчас Богаслужбы сьпеваў хор пад кіраўніцтвам Сп. М. Тулейкі.

Пасьля Літургіі быў адслужаны Малебен і адбыўся Крэсны Ход навокал царквы. Падчас Крэснага Ходу чыталіся чатыры Евангільлі. Вернікі з вялікай увагай праслухалі Службу Божую, а так сама, зь ня меньшай увагай слухалі пропаведзь Уладыкі Мікалая. Архіяпіскап Мікалай гаварыў на тэму сьвята Св. Троіцы ды аб значэньні Беларускай Аўтакефальнах Праваслаўнай Царквы. „Нішто так глыбока не кранае душу чалавека, як сваё роднае слова, а таму нішто так ня зьліжае нас да Бога, як малітва ў сваёй роднай мове.", гаварыў Уладыка Мікалай. „Царква дапамагала нашаму народу на працягу многіх стагодзьдзяў перажыць безьліч вельмі балючых і вельмі трагічных падзеяў і памагае сягодня нашаму духовавy, нацыянальнаму й рэлігійнаму адраджэньню." Нарэшце Ул. Мікалай заклікаў усіх праваслаўных беларусаў згуртавацца навокал сваёй нацыянальнай беларускай Праваслаўнай Царквы.

Пасьля Божай Службы а. Карп запрасіў усіх вернікаў на агульную трапезу. Падчас абеду ў царкоўнай салі была зарганізавана лётарэя старшынёю Парахвіяльнай Рады Жыровіцкай Божай Маці, Сп. Мікалаем Войтэнкам. Увесь прыбытак ад лётарэі быў перададзены Прыходу Св. Троіцы ў Дороты.

„На заканчэньне я дазволю ад сябе асабіста, ад Матушкі Вольгі, ад Парахвіяльнай Рады Прыходу Св. Троіцы ў Дороты ды ад усіх парахвіянаў нашага прыходу зложыць шчырую падзяку Архіяпіскапу Мікалаю, усім тым што былі ў малітоўным саслужэньні, Парахвіяльным Радам у Гайлэнд Парк і Брукліне, усім харыстам і рэгентам і усім вернікам.

Асаблівую падзяку выказваю Сястрыцтву Прыходу Жыравіцкай Божай Маці ў Гайлэнд Парк за добрыя й смачныя стравы, прыгатаваныя імі спэцыяльна для нашага прыходу."

Настаяцель Прыходу Св. Троіцы ў Дороты
Протаірэй а. Карп Стар



*Перад Крэсным Ходам у Царкве Св. Троіцы ў Дороты*

# НОВЫ СЬВЯТАР БАПЦ

Дня 9-га і 10-га лістапада 1974 году Сп. Максім Таўпека быў рукапалажаны на сьвятара для Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Рукапалажэньне выканалі Мітрапаліт Андрэй і Архіепіскап Мікалай у царкве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Торонто, Канада.

Новарукапаложаны сьвятар Максім прызначаны рэлігійна абслугоўваць парафіянаў належачых да парафіі Сьв. Духа ў Дэтройт.

Нарадзіўся Максім Таўпека 2-га лютага (згодна старога стылю) 1916 года ў вёсцы Рамашкі Баранавіцкага павету.

У выніку ваенных дзеяньняў і ў часе вайны лёс закінуў яго да сонечнай Італіі. У Канаду пераехаў у 1946 годзе. Ад 1948 году безперапынна належаў да складу хору Украінскае Праваслаўнае Царквы ў Ватэрфордзі, дзе ў часе адсутнасьці рэгента кіраваў хорам і чытаў апостала.

Сяньня ў прызначанай яму парафіі робіць добрыя посьпехі і карыстаецца пашанаю сярод парафіянаў.

Шостага красавіка г.г. разам з іншымі сваімі парафіянамі наведаў Кліўлэнд, прыняў чынны удзел у Архірэйскай Багаслужбе і сваім цудоўным голасам упрыгожваў Багаслужбу.

Прысутны на Багаслкжбе.

# У Парафіі Жыровіцкае Божае Маці

### Гайлэнд Парк, Ню Джэрзі

Дня 19 травеня сёлета ў канцылярыі Кансысторыі, пад старшынствам Уладыкі Мітрапаліта Андрэя, адбылася нарада Япіскапаў Беларускае Аўтакефальнае Царквы, на якой былі разгледжаны бягучыя справы й прыняты належныя пастановы.

Дня 23 травеня на нарадзе Япіскапаў БАПЦ адбыўся перагляд і канчатковая рэдакцыя Статуту БА ПЦ. Ужо зацьверджаны Саборам Япіскапаў Статут будзе перакладзены на ангельскую мову й здадзены да надрукаваньня.

У чацьвер 22 травеня ў дзень пераносу мошчаў Сьвяціцеля Мікалая, як таксама ў сувязі з прыпадаючым днём нараджэньня Архіепіскапа Мікалая, была адслужана Ім сьв. Літургія, на якой былі прысутныя Уладыка Мітрапаліт Андрэй і а.а. Васіль Кендыш і Александар Яноўскі.

Пасьля службы спадарства Мікалай Войтэнка запрасілі Уладыкаў і сьвятароў на падрыхтаваны абед, дзе быў паднесены Уладыку Мікалаю ўрадзіновы пірог. Прысутныя шчыра віталі Уладыку з гадавінай нарадзінаў жадаючы добрага здароўя й памыснай працы для дабра Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы.

### Парафіяльнае сьвята

У суботу 24 травеня а гадз. 7-й увечары Вялікая вячэрня з асьвячэньнем хлябоў і акафістам да Жыровіцкай Божай Маці. У сувязі з хваробай настаяцеля а. Яноўскага, вячэрню служыў прат. Васіль Кендыш, а на акафіст і пасьвячэньне хлябоў далучыліся прысутныя Уладыка Мітрапаліт Андрэй і Архіепіскап Мікалай.

Назаўтра, ў нядзелю 25 травеня, ўрачыста адзначалася парафіяльнае сьвята. На 9-ю гадзіну раніцы прыбылі ў царкву Уладыка Мітрапаліт Андрэй з Архіяпіскапам Мікалаем. Пры ўваходнай браме вітаў Уладыку Мітрапаліта Старшыня Парафіяльнае Рады сп. Мікола Войтэнка, а дзеці паднесьлі букет кветак, У царкве вітаў уваходзячага Уладыку Мітрапаліта настаяцель парафіі а. Александар Яноўскі. Пасьля ўваходных малітваў і аблачэньня пачалося чытаньне часоў Юркам Драздоўскім. Сьв. Літургія служылі Уладыка Мітрапаліт Андрэй, Архіяпіскап Мікалай, пратаярэі Васіль Кендыш і Карп Стар. Прыгожае й зьмястоўнае слова на тэму сьвята сказаў Уладыка Мітрапаліт. Пасьля Літургіі быў адслужаны малебен з крэсным ходам вакол царквы.

У гэты-ж дзень Вэтэраны штату Ню Джэрзі прыурочылі пасьвячэньне помніка змагаром, якія аддалі сваё жыцьцё на палёх хвалы за вызваленьне й незалежнасьць Бацькаўшчыны-Беларусі. Помнік пастаўлены на парафіяльным магільніку Жыровіцкае Божае Маці ў Іст Брансвік, Ню Джэрзі. На гадзіну 1-ю па паўдні, не зважаючы на дажджлівую пагоду, сабралася шмат народу, каб быць прысутным пры пасьвячэньні помніка. На вызначаную гадзіну прыбыў Уладыка Мітрапаліт Андрэй, Уладыка Архіяпіскап Мікалай з прат. Карпам Старам, якія прынялі удзел пры пасьвячэньні й заупакойнай службе.

* * * * * * *

8-га чэрвеня ў пятую гадавіну сьмерці сьв. пам. Архіяпіскапа Васіля, у царкве Жыровіцкае Божае Маці, пасьля сьв. Літургіі а. Александар Яноўскі адслужыў паніхіду, на якой усе шчыра маліліся за супакой душы адыйшоўшага любага Архіпастара.

# Парафія Катэдральнага Сабору Св. Кірылы Тураўскага

Дня 17 травеня сёлета ў Катэдральным Саборы Св. Кірылы Тураўскага адбылася нарада Рады Беларускае Праваслаўнае Царквы. На нараду прыбылі: Уладыка Мітрапаліт Андрэй, Архіяпіскап Мікалай, прат. Васіль Кендыш, прат. Карп Стар і сябры Рады са штатаў Ню Ерк і Ню Джэрзі. Іншыя сябры Рады БАПЦ пераслалі свае ўпаўнаважаньні прысутным сябром Рады на паседжаньні. Перад пачаткам нарады быў адслужаны прат. Васілём Кендышам малебен пры ўдзеле ўсіх прыбылых сяброў Рады БАПЦ. Нарадай кіраваў Уладыка Мітрапаліт Андрэй, які пры адчыненьні зрабіў кароткі агляд становішча й працы БАПЦ. Сакратар Кансысторыі інфармаваў Раду аб палажэньні паасобных парафіяў і аб агульнай маемасьці БАПЦ. Скарбнік Кансысторыі сп. Аўген Лысюк падаў стан Касы БАПЦ за 1974 год. На нарадзе шырока дыскутавалася справа сувязей БАПЦ з Канстантынопальскім Патрыярхам і іншымі Праваслаўнымі Цэрквамі й былі прынятыя адпаведныя пастановы. Разглядаючы выдавецкія справы, пастанавілена зьбіраць сьродкі на выданьне напрастольнага Эвангельля ў беларускай мове, Статут БАПЦ і іншыя патрэбныя рэчы. Нарада прайшла ў добрай і працоўнай атмасфэры.

На заўтра 18 травеня парафія Катэдральнага Сабору Св. Кірылы Тураўскага адзначае сваё парафі-

Працяг на 8-й бачынцы

# ПЕТРА КРЭЧЭЎСКІ



М. Харошка

Кім быў для беларускага народу Пётра Крэчэўскі? Які быў ягоны жыцьцёвы шлях? Ягонае мейсца ў гісторыі беларускага адраджэнскага руху? На ўсе гэтыя пытаньні, як і на многія іншыя – мы не маглі знайсьці задаваляючага адказу. І гэта зусім зразумела, бо аб Крэчэўскім пісалася вельмі мала. Апрача прынагодных кароткіх рэпартажаў-успамінаў, пераважна публікаваных з нагоды ладжаных Сакавіковых урачыстасьцяў, нічога аб Крэчэўскім не друкавалася. Заданьнем гэтага артыкулу – падаць некулькі профіляў з жыцьця й дзейнасьці Пётры Крэчэўскага, каб пазьней магчы нарысаваць хоць ня поўны абраз гэтага выдатнага змагара-патрыёта, які ўсё сваё жыцьцё пасьвяціў барацьбе за лепшую долю свайго народу.

„Пётра Крэчэўскі нарадзіўся 7-га жніўня 1879-га г. у Кобрынскім павеце на Палесьсі. Вучыўся ў Віленскай Духоўнай Сэмінарыі, якую скончыў у 1902-м г. Пасьля займаў пасаду вучыцеля, а пазьней працаваў банковым урадоўцам. У 1914-м г. быў пакліканы да войска й назначаны вайсковым урадоўцам. Рэвалюцыя 1914-га г. застае П. Крэчэўскага на гэтай пасадзе ў Барысаве.

На Ўсебеларускім Зьезьдзе 1917-га г. быў ён выбраны Сябрам Рады Зьезду, а 19-га лютага 1918-га г. увайшоў у склад першага беларускага ўраду (Народны Сакратар'ят). У травені 1918-га г. заняў становішча Старшыні Гандлёвае Палаты Беларусі. Другога кастрычніка 1918-га г. выбраны Сакратаром Рады Беларускай Народнай Рэспублікі.

13-га сьнежня 1919-га г. Пётра Крэчэўскі быў выбраны Старшынёю Рады БНР.

Трымаць сьцяг незалежнасьці Беларусі і ў Беларусі аставацца, ня было магчымым. Дзеля гэтага П. Крэчэўскі зь беларускім урадам прабываў за граніцай: у Коўні, у Берліне, Рызе, зноў у Коўні, і ад 1923-га г. аж да самай сьмерці 8-га сакавіка 1928-га г., прабываў ён у Празе Чэскай."

Гэткі кароткі жыцьцёрыс з нагоды 10-х хгодкаў сьмерці Прэзыдэнта Рады Беларускай Народнай Рэспублікі Пётры Крэчэўскага быў надрукаваны ў нумары 9–157 „Хрысьціянскай Думкі", Вільня, 20 сакавіка 1938-га г.

Зразумела, што гэткі жыцьцёрыс аб П. Крэчэўскім быў перасланы рэдакцыі „Хрысьціянскай Думкі" Старшынёю Рады БНР. Сп. В. Захаркаю, які маючы поўны тэкст аўтабіяграфіі П. Крэчэўскага, выкарыстаў толькі тыя часткі жыцьцёрысу, якія ўважаў што могуць быць апублікаваны ў прэсе.

Гдзе знаходзіцца цяпер поўны, арыгінальны тэкст аўтабіяграфіі Пётры Крэчэўскага, ягоны асабісты архіў, архіў дзяржаўных актаў, рукапісы ягоных працаў друкаваных і не апублікаваных?

На гэтыя пытаньні мы ня маем, да гэтага часу, ніякага адказу. Але варта прыпомніць, ды нешта сказаць аб жыцьці Пётры Крэчэўскага ў Празе Чэскай за ўвесь пэрыяд часу ад 1923-га г. аж да самай Ягонай сьмерці. Гэта былі апошнія гады жыцьця Пётры Крэчэўскага, гады найбольш багатыя ў падзеі, найбольш плённай і інтэнсыўнай грамадзка-палітычнай і дыплёматычнай працы на чужыне.

Працяг будзе.





# НАВІНЫ

** Быўшы вайсковы міністар Мэльвін Р. Рэйд на балонках журнала „Рідэрс Дайджэст", зьмясьціў цікавы артыкул пад загалоўкам „Ці гэта дэтант?" У гэтым артыкуле аўтар гаворыць, што добрыя суадносіны паміж дзяржавамі павінны апірацца на выконваньні падпісаных забавязаньняў. Нажаль, Масква яшчэ ніколі не датрымала сваіх забавязаньняў і, пры гэтым дадае Рэйд наступнае:

1. 5.26-га 1972г. паміж ЗША й Масквою была падпісана дамова аб абмежаваньні будовы стратэгічнай зброі: Саветы, аднак ня стрымалі будовы ракетаў, а цяпер маюць іх у 2 разы больш, чым ЗША.

2. У Парыжы Саветы падпісалі дамову аб замірэньні з Вьетнамам, аднак і тут яе не датрымалі. У гэтым часе Масква дала Паўночнаму Вьетнаму зброю на суму два з палавай мілярда даляраў і гэтым дапамагла камуністам зьнішчыць Паўдзённы Вьетнам.

3. У 1972-м г. быў падпісаны дагавор паміж ЗША й Масквою аб пераходзе людзей з Усходняга Бэрліна да Заходняга Бэрліна, але й гэтага дагавору Масква не выканала.

4. Гаворачы аб супакоі ва ўсім сьвеце, Масква вучыць арабаўтэрарыстаў як на сваёй тэрыторыі, так і ў Сырыі й ва Ўсходняй Нямеччыне.

5. Камуністычная партыя Партугаліі за гэты год атрымала ад Масквы 40 мільёнаў даляраў. Грошы пайшлі на арганізаваньне дэманстрацый і на зьнішчэньне апазыцыі.

6. Саветы ўсякімі сьродкамі стараюцца быць першай мілітарнай дзяржавай у сьвеце. Тагды, як ЗША зрэдукавалі на 1.4 мільёна сваю армію й флёт, то Саветы сваю армію зьвялічылі на 4.2 мільёна, а вайсковы бюджэт на 20-25%; ЗША зрэдукавалі свой вайсковы бюджэт аж на 34%.

У канцы свайго артыкулу М. Рэйд заклікае амэрыканскіх палітыкаў і бізнесмэнаў зразумець, што доўгатэрміновыя пазыкі на вельмі малы працэнт на будову фабрык і прадажу хлеба для Масквы прывядзе да адбудовы эканомікі ворага, але нішчыць сваю ўласную.

** Масква адмовілася падпісаць доўга-тэрміновую дамову аб куплі амэрыканскага збожжа, бо падпісаньне гэткай умовы, было-б роўназначна прызнаньня на цэлы сьвет, што Савецкі Саюз стала, з году ў год, ня можа пракарміць насельніцтва СССР.

** Маскве вельмі непадабаецца рэзкае выступленьне егіпецкага прэзыдэнта Анвара Садата супраць Масквы й супраць маскоўскай крытыкі сінайскай умовы.

** Пэкін рыхтуе да подпісу умовы з амэрыканскімі фірмамі аб пошуках нафты ў Кітаі. Мэта Кітайцаў: навучыцца ад Амэрыканцаў патрэбнай тэхналёгіі.

** У Камбодыі, гдзе Амэрыка праграла вайну, Масква нічым пахваліцца ня можа. Камуністычны урад Камбодыі не дазволіў Маскве адчыніць Савецкую амбасаду.

** Сёлетняя вялікая няўдача савецкай сельскай гаспадаркі, другая ад 1972 году, змусіла Маскву зьвярнуцца да ЗША аб дапамозе й прадажы збожжа, і паказвае, яшчэ раз, слабасьць калхознай сыстэмы гаспадаркі.

** Востры упадак цэнаў на золата, якое СССР выкідае на міжнародны рынак, ды эканамічная дэпрэсія на Захадзе, моцна зьменьшылі савецкія грашовыя прыбыткі, і якраз тагды, як цэны на прадукты й іншыя рэчы, якія Масква імпартуе, бязупынна растуць – моцна клапоцяць Маскву.

** Найбольшая савецкая праблема гэта – Савецка-Кітайскі канфлікт. Масква ня можа сабе пазволіць палітыкі адкрытай варожасьці супраць ЗША й Кітаю адначасова. Магчымасьць, што ЗША і Кітай супольна выступяць супраць СССР, моцна непакоіць Маскву.

## ПАРАФІЯ КАТЭДРАЛЬНАГА САБОРУ СВ. КІРЫЛЫ ТУРАЎСКАГА

Працяг з 7-й бачынкі

яльнае сьвята. Урачыстую Божую службу ачоліў Уладыка Мітрапаліт Андрэй у саслужэньні Уладыкі Архіяпіскапа Мікалая й прат. Васіля Кендыша – Настаяцеля Сабору й прат. Карпа Стара. Часы чытаў студэнт Юрка Драздоўскі. Уся Божая Служба адбылася пры ўзвышаным настроі, як духавенства так і молячыхся. Прыгожа пяяў хор пад кіраўніцтвам дырыгэнта сп. Міхася Тулейкі.

Уладыка Мітрапаліт сказаў зьмястоўнае слова пра жыцьцё і дзейнасьць патрона Сабору Св. Кірылы Тураўскага, ды заклікаў да больш актыўнуйй працы для дабра нашае Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы. Божая Служба закончылася малебнам удзячнасьці.

Падканец Св. Літургіі Уладыка Мітрапаліт узнагародзіў граматай Парафіяльную Раду й Сястрыцтва за іхнюю пачэсную й ахвярную працу для Сабору.

Па заканчэньні Службаў Божых усе перайшлі ў залю пад Саборам, дзе Сястрыцтва падрыхтавала смачны абед. Падчас абеду сп. інж. Мікола Гарошка прачытаў кароткі даклад аб жыцьці й дзейнасьці Св. Кірылы Тураўскага.

Даведаўшыся, што Уладыка Архіяпіскап Мікалай мае ў сярэдзіне тыдня дзень нарадзінаў, прат. Васіль Кендыш выказаў шчырыя пажаданьні добрага здароўя, шмат сілаў і вытрываласьці ў Ягонай ахвярнай Архіпастарскай працы. Усе прысутныя прпялі „Многае лета".

1-га чырвеня г. году, ў пятую гадавіну сьмерці св. пам. Прэзыдэнта БНР Міколы Абрамчыка, ў Катэдральным Саборы Св. Кірылы Тураўскага ў Ню Ёрку была адслужана паніхіда. Прат. Васіль Кендыш сказаў кароткае слова аб жыцьці й дзейнасьці гэтага выдатнага й ахвярнага дзеяча, праца якога займае пачэснае мейсца ў гісторыі змаганьня за незалежную Беларусь. У маленьнях прынялі ўдзел некаторыя супрацоўнікі памершага, прыяцелі й пляменнік Мікола Абрамчык. Вечная памяць сьветлай душы ягонай.

8-га чырвеня ў пятую гадавіну сьмерці св. пам. Архіяпіскапа Васіля, былога кіраўніка БРПЦ у Амэрыцы й Настаяцеля Сабору Св. Кірылы Тураўскага, пасьля св. Літургіі была адслужана паніхіда. Прат. Васіль Кендыш у сваім казаньні гаварыў аб вялікіх заслугах і ахвярнай працы Архіпастыра для нашае Беларускае Аўтакефальнае Царквы. Пасьля ў залі пад Саборам адбылася памінальная бяседа, якую зрыхтавала Сястрыцтва Парафіі Сабору, дзе сп. інж. Мікола Гарошка, як сябра студэнцкіх часоў ў Празе Чэжкай, гаварыў аб жыцьці й дзейнасьці Архіяпіскапа Васіля. З кароткімі ўспамінамі выступілі сп. сп. Міхась Тулейка, Мікола Кунцэвіч, Зіна Станкевіч, Уладзімір Курыла, і Пётра Манькоўскі.